

№ 40 (477) 11 КАСТРЫЧНІКА 2000 г. наша слова



Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"
220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл/факс 284-85-11

Разліковы рахунак № 30120013240001 у Гарвыканкамі ААТ Белбізнесбанку г. Мінску, код 764.

**Спадару Чыкіну В. В., Старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, 220807, г. Менск, вул. Макаёнка, 9**

Паважаны Віктар Валянцінавіч!

Мусім звярнуць Вашу ўвагу на тое, што апошнім часам у інфармацыйных праграмах АТН усё часцей з'яўляюцца рэпартажы на рускай мове. Такога не было нават за савецкім часам, бо кіраўніцтва краіны і тэлебачання выдатна разумела, што гэта адзіны інфармацыйны тэлеканал на мове тытульнай нацыі, і рупілася пра забеспячэнне, хоць бы вокавка, нацыянальных правоў жыхарства рэспублікі.

Просім патлумачыць, чаму нядзельная аналітычная праграма "Рэзананс" выходзіць у эфір па-руску, хаця вядучы праграмы, Ваш намеснік спадар Зімоўскі валодае беларускай мовай. Падобныя аналітычныя праграмы выходзяць у гэты вечар па расійскіх тэлеканалах і, зразумела, на рускай мове. Атрымліваецца, што беларусу ў нядзелю вечарам аніяк немагчыма пачуць роднай мовы з экрана тэлевізара. І гэта знаходзячыся не ў эміграцыі, а жывучы ў роднай краіне!

Просім таксама паведаміць, чаму ўсе мультыплікацыйныя стужкі, што дэманструюцца на нацыянальным тэлеканале, дагэтуль не дублююцца па-беларуску. Таварыства беларускай мовы можа перадаць Беларускаму тэлебачанню мультфільмы, дубляваныя па-беларуску студэнтамі і акторамі менскіх тэатраў уласным коштам на грамадскіх пачатках. Ці не падаецца Вам дзіўным, што ў студэнтаў з іх невялікімі стыпендыямі і беларускіх акцёраў з іх жабрачымі заробкамі знаходзяцца сродкі і магчымасці, каб агучыць гэтыя стужкі, а ў адзінага ў краіне нацыянальнага тэлеканала сродкаў на такую важную справу чамусьці не стае. І гэта ў той час, як на стварэнне нізкага ўзроўню калек з расійскіх праграм беларускае тэлебачанне грошай не шкадуе. Няўжо беларускія дзеткі так і не дачакаюцца з экрану тэлебачання мультфільмаў па-беларуску, гадуючыся ў суверэннай Беларусі!

А па станоўчыя прыклады ў вырашэнні нацыянальнага пытання далёка хадзіць не трэба. Ува Украіне нават ні на адным з мясцовых телеканалаў, не кажучы ўжо пра нацыянальны, Вы не пабачыце ані серыялу, ані якога іншага фільму, каб ён не быў падубляваны на ўкраінскую мову. А эканамічны стан гэтай краіны нельга лічыць добрым.

Такім чынам, Таварыства спадзяецца, што Вы, шаноўны спадар Чыкін, абавязкова выправіце такую прыкрую сітуацыю, што існуе зараз на нацыянальным тэлеканале, і паспрыяеце забеспячэнню канстытуцыйнага права беларускіх грамадзян на атрыманне інфармацыі на іх роднай, а разам з тым і дзяржаўнай беларускай мове, і менавіта пад Вашым кіраўніцтвам беларуская мова ўсё ж атрымае зялёнае святло на адзіным тэлеканале краіны, каб ён меў сапраўднае права звацца нацыянальным.

**З павагай старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.**



Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь
Национальная государственная телерадиокомпания Республики Беларусь

220807, Рэспубліка Беларусь, г. Мінск, вул. Макаёнка, 9
220807, Республика Беларусь, г. Минск, ул. Макаёнка, 9

**Старшыні ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" А.А. Трусаву**

Паважаны Алег Анатольевіч!

У сувязі з Вашым пісьмом ад 30 жніўня 2000 года № 572 мушу нагадаць Вам, што беларускі народ на адпаведным рэферэндуме вырашыў размаўляць, чытаць, спасцігаць здабыткі сваёй і сусветнай культуры на дзвюх мовах.

Каб чуць беларускую мову з экрана Беларускага тэлебачання - раю Вам глядзець не толькі нядзельныя перадачы А. Л. Зімоўскага.

Што да Вашай прапановы аб перадачы Беларускаму тэлебачанню мультфільмаў, то мы згодны купіць іх, калі Вы гарантуеце, што яны агучаны на літаратурнай беларускай мове і адпавядаюць агульнапрызнаным нормам якасці.

**З павагай Старшыня Белтэлерадыёкампаніі В. В.Чыкін.**



Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"
220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл/факс 284-85-11.

Разліковы рахунак № 3012001824001 у Гарвыканкамі ААТ Белбізнесбанку г. Мінску, код 764

**Спадару В.Стражаву міністру адукацыі Беларусі # 9 Савецкая 220010 Менск**

Паважаны Васіль Іванавіч!

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" апошнім часам усё часцей атрымлівае сведчанні пра нізкую якасць падрыхтоўкі выпускнікоў сярэдніх і вышэйшых навучальных установ краіны па беларускай мове ды іншых гуманітарных дысцыплінах. Гэтая ж праблема закранаецца і ў лісце старшыні Белтэлерадыёкампаніі сп. Віктара Чыкіна, што яшчэ больш пераконвае нас у надзвычайнай патрэбе Беларусі мець Беларускі нацыянальны універсітэт з выкладаннем усіх дысцыплінаў па-беларуску.

Аднак ужо сёння ў нашай краіне можна палепшыць стан валодання роднай, а між тым і дзяржаўнай, мовай. У звязку з гэтым ТБМ звяртаецца да Вас з шэрагам прапаноў:

- Увесці тэму "Арфаэпія" у праграму пачатковых і 5-6 класаў прыступкавым прынцыпам з абавязковым дубляваннем гэтай найважнейшай тэмы ў падручніку на працягу 3-4 параграфаў;
- Увесці абавязковы іспыт па беларускай мове за курс сярэдняй школы і дзяржаўны іспыт – на ўсіх гуманітарных факультэтах ВНУ;
- Аднавіць курс беларусазнаўства для негуманітарных спецыяльнасцяў ва ўсіх ВНУ;
- Адкрыць шэраг курсаў па вывучэнні беларускай мовы для жыхароў краіны розных установ, асабліва для супрацоўнікаў дзяржаўных установ, якія паводле Закона аб мовах мусяць валодаць дзяржаўнай беларускай мовай;
- Увесці ў сістэму кваліфікацыйных іспытаў для супрацоўнікаў дзяржустаноў іспыт па беларускай мове.

З павагай.

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.**

# Мае развагі

Як ні сумна зазначыць, але справа з іншамоўна-беларускімі і беларуска-іншамоўнымі слоўнікамі пры незалежнасці, як і пад савецка-расейскай акупацыяй, застаецца той жа: іх папросту няма. То бо, яны, як бы ёсць тэарэтычна, але практычна, у кнігарні, вы іх не ўбачыце.

Зноў, як і пад савецкай акупацыяй, нашыя школьнікі мусяць вывучаць ангельскую, іспанскую, нямецкую ды французскую мовы праз каланіяльную расейскую. Праўда, у падручніках, прызначаных для школ з беларускай мовай навучання ёсць маленькія слоўнічкі, дзе іншамоўныя словы пададзены па-беларуску, але яны складзены не надта ахайна, яўна з аглядкаю на расейскую мову і да таго ж вельмі маленькія. А паколькі зараз ідзе працэс лінгвістычнай "зачысткі" Беларусі, то і такія "турботныя" падручнікі і слоўнічкі пры іх паступова знікаюць.

У сённяшняй Беларусі беларусу нельга прыдбаць нічога каб вывучаць чужыя мовы, альбо чытаць іншамоўны тэкст непасрэдна праз беларускую мову. Слоўнікавы рынак слугуе толькі "рускаязычных".

Слоўнікаў з іншых моваў на беларускую існуе вельмі небагата і саміх моваў таксама мала. Беларуска-іншамоўных слоўнікаў шчэ меней, таму няма як прадстаўляць нашую мову лінгвістычнаму і проста цікаўнаму грамадству. Гэта праблема, якая чакае пільнага вырашэння.

Мой лексікаграфічны досвед паказвае, што складанне слоўнікаў патрабуе часу, ведаў, энтузіястычнасці, нацыяналістычнасці ды аптымізму.

Пачалося ўсё з таго, што, чым болей я выкладаў замежную мову, тым меней натуральным здавалася мне тое, як я гэта раблю. Я маю на ўвазе каланіяльны спосаб, праз расейскую. Урэшце, неяк з першага верасня, ужо і не памятаю з якога году, я пачаў вучыць дзетак праз беларускую. Справа была настолькі незвычайная, што, дазнаўшыся пра тое праз некалькі тыдняў, завуч ажно тры дні запар хадзіў да мяне на ўрокі, а потым сказаў: - А як жа ты будзеш вучыць? На беларускую ж не перакладаецца.

– Чалавек – сам беларус – так прызвычаіўся да расейшчыны, што нават не думаў, што на беларускую, як і на ўсякую іншую, можна перакласці. Мне потым казалі, што я быў адзіным настаўнікам замежнай мовы на Беларусі, хто не парушыў моўны рэжым. Хто яго ведае, мо і так.

Але справа не ў гэтым. Хто кажа "а" мусіць сказаць і "б". Давялося ўзяцца за складанне слоўнікаў. Калі хто-небудзь са знаёмых дазнаваўся, чым я займаюся, то з жалем пытаў, навошта гэта. І, шчыра кажучы, я не мог знайсці трапны аргумент. Гэта пытанне, як: навошта вам дзіця, калі ўжо ёсць на свеце досыць дзяцей.

Між складзеных і нідзе не надрукаваных – а, значыць, віртуальных слоўнічкаў, ёсць італьянска-беларускі, тысяч на 11 словаў. У свой час яго мелася выдаць адно патрыятычнае выдавецтва, слоўнік адрэдагавалі, набралі на кампутары, але далей працэс "павіс".

Складаў я яго з вялікім энтузіязмам, бо мне падабаецца італьянская мова, у свой час менавіта з італьянскіх газет, якія нейкім дзівам прадаваліся ў Менску, я даведаўся шмат пра тое, чаго век не прачытаў бы ў савецка-камуністычным друку. Шкада, што і дагэтуль мы не маем дасяжнага італьянска-беларускага слоўніка.

Калі зараз заходзіць гаворка пра слоўнік то ў мяне докі зазвычай пытаюць, дзе я браў найбольш частотныя словы. Скажу адразу – нідзе. Бо слоўнікавы рынак, спрэс апанаваны расейшчынай, вельмі бедны. На ім нічога сур'ёзнага нельга купіць. Толькі ў двух выпадках – іспанска-беларускім і італьянска-беларускім – я скарыстаў спіс найбольш частых словаў. У іншых выпадках даводзіцца абапірацца на свой лінгвістычны досвед і разважны розум. Да таго ж увесь час, складаючы слоўнік, думаеш, ці варта ставіць у яго тое ці іншае слова, прыслухоўваючыся да радыё, прыкідваеш гэта чытаючы газету. Словам, стала жывеш у лінгвістычным асяроддзі.

У лексіграфічнай справе асабліва шкодзіць рыгарыстычны падыход. Што ні кажы, а нашы рэдактары ўсё шчэ жывуць пад чарамі расейскай лексікаграфіі, бо іншых моваў, нажаль, не ведаюць. Адзін мой слоўнік падмеліся выпусціць, нават абвестку надрукавалі, пачалі рэдагаваць. Якім жа было маё здзіўленне, калі я ўбачыў на стале рэдактаркі побач з маім слоўнікам расейскі, да слова, састарэлы, хоць і найноўшага на той час выдання. Я ведаю ўсе гэтыя чатыры мовы, але кантраляваць беларускі слоўнік праз расейскі – дурнота. Я зразумеў, што маёй працы хана. Хана прыйшла з беларускага боку, калі высокалобыя хлопцы напісалі доўгае глупства пад назовам "рэцэнзія". Самі хлопцы для беларускай лексікаграфіі нічога не зрабілі, але ідэю зарэзалі. Зараз той слоўнік – 6 тоўстых папак – збірае пыл на шафе.

Вельмі крыўдна, што нашыя беларускія дзеці не маюць, адмысловых слоўнічкаў на замежных мовах. Для навучання мовам патрэбныя невялікія слоўнікі, каб вучань мог хутка знайсці слова. Ёсць у нас іспанска-беларускі ды беларуска-іспанскі слоўнічак для школьнага ўжытку (абодва маюць каля чатырох тысяч словаў, што зусім дастаткова для паразумення). Летась гуртам мы выдрукавалі на друкарцы беларуска-нямецкі слоўнічак, нажаль, усяго толькі некалькі асобнікаў для сябе. Пад канец году я зрабіў беларуска- партугальскі ды партугальска-беларускі слоўнічкі. Можа падацца, што партугальская мова ў Беларусі нешта вельмі экзатычнае. Гэта недасведчаным так здаецца, хто ведае мовы, таму экзатычных моваў няма. Мне трошкі шкада, што для мяне прапаў флёр таямнічасці многіх еўрапейскіх моваў. Хай бы гэты флёр прапаў і для маіх суайчыннікаў.

А тым часам у школах замежная мова на правох другараднага прадмета. Мяркуйце самі, у пятым класе на расейскую мову і літаратуру ідзе пяць гадзін, на замежную – толькі тры.

Практычна адзін дзень у тыдзень нашыя вучні вывучаць тое, што і без таго добра ведаюць. Мне шчэ ніхто не жаліўся, што не разумее расійскага мульціка. Словам, дзень з тыдня марнуецца на русіфікацыю. Між тым павелічэнне колькасці часу на вывучэнне замежных моваў праз беларускую спрыяла б, як беларусізацыі, гэтак і еўрапеізацыі нашага юнацтва, падвышала б ягоны культурны статус. Але не забудзем, што ў нас на адукацыю ідзе 6,6% УВП, у маленькай Даніі – з Гомельскую вобласць! – ажно 20%!

Нашыя настаўнікі нічым не горшыя за замежныя. Мы проста бедныя. Нашыя дзеці кемлівыя і таленавітыя. Ім не пашчасціла нарадзіцца ў багатай краіне. Дык ці да слоўнікаў тут? Так, і да слоўнікаў!

Наперадзе шмат працы. Ляжаць рэестры новагрэцка-беларускага слоўніка, дацка-беларускага ды шведска-беларускага слоўнічкаў. Ляжыць непакладзены на беларускую мову Джаванні Бакачча. Трэба працаваць не зважаючы ні на якія "інтэграцыі", ні на якую каньюнктуру, бо "жыў беларус і будзе жыць".

Так што хто ведае мовы, хай бярэцца хоць бы за маленькую справу. Вось адзін мой сябар склаў невялікі, але дастатковы ірландска-беларускі ды беларуска-ірландскі слоўнік.

Файна.

Жыве Беларусь!

*Мікола Бусел, настаўнік.*

